# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду»

Выпуск №3 жнівень 2014 году




# Алесь Лагвінец: Не трэба складаць рукі

**Ён умее зрабіць уражанне. Выглядае маладзей сваіх гадоў. Адукаваны, абаяльны, інтэлігентны. Меў магчымасць назаўсёды застацца за мяжой і зрабіць там неблагую кар'еру. Але патрыятызм і беларускасць для яго — не пусты гук. Так журналістка Марына Коктыш прадставіла палітолага, намесніка старшыні Руху "За Свабоду" Алеся Лагвінца, з якім зрабіла гутарку ў "Народнай Волі".**



Апошнім часам беларускія сродкі масавай інфармацыі прыблізна раз на тыдзень вылучаюць яго кандыдатам у прэзідэнты. Ці сапраўды Лагвінец маеце намер увязацца ў барацьбу за крэсла кіраўніка дзяржавы?

- Размовы вядуцца не толькі наконт мяне —- абмяркоўваюцца яшчэ і іншыя асобы. Я сам не раблю ніякага ўкідвання інфармацыі ў публічную прастору і ніяк не ініцыірую абмеркаванне сваёй кандыдатуры.

**- Але вы для сябе ўжо прынялі канчатковае рашэнне — увязвацца ў бой ці не?**

- Сёння яшчэ няма рашэння

**працяг на стар. 4**

# Колькі плаціць настаўнікам?

**У верасні ініцыятары "Народнага рэферэндуму", сярод якіх у тым ліку Рух "За Свабоду", накіруюць першыя 50 тысяч подпісаў грамадзян у яго падтрымку дэпутатам Палаты прадстаўнікоў.**

Перад гэтым лідары "Народнага рэферэндуму" вырашылі сустрэцца з імі асабіста. Каб абмеркаваць лакальныя праблемы і прэзентаваць пытанні прапанаванага плебісцыта.

Ужо адбыліся дзясятак такіх сустрэчаў. Першы намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч падзяліўся ўражаннямі пра адну з апошніх – у Слуцку з "народнай абраніцай" Інэсай Кляшчук.

«Народны рэферэндум» падтрымалі больш за 3700 выбарцаў з акругі дэпутаткі Інэсы Кляшчук. Але яна спрабавала давесці, што цікавіцца іх праблемамі выключна на мясцовым узроўні. Прадстаўнікам кампаніі давялося патлумачыць ёй, што агульнанацыянальныя пытанні таксама важныя для выбарцаў», - адзначыў Юрась Губарэвіч.

«У выніку Кляшчук моўчкі заслухала інфармацыю пра кампанію, збор подпісаў, пытанні «Народнага рэферэндума», ніяк не адрэагаваўшы на ініцыятыву», - паведаміў Губарэвіч.

У яго склалася ўражанне, што «дэпутат парламенту - не зусім на сваім месцы».

«Хацелася б, каб «народныя абраннікі» былі больш актыўнымі, выказвалі сваю пазіцыю і больш цікавасці праяўлялі да ініцыятываў, падтрыманых іх выбарцамі, што носяць мірны, законны характар і вядуць да пазітыўных зменаў у Беларусі», - падкрэсліў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду».

**працяг на стар. 6**

# Аляксандр Мілінкевіч: Ёсць вартыя людзі



**Ці прыняў лідар Руху “За Свабоду” Аляксандр Мілінкевіч рашэнне зноў балатавацца ў прэзідэнты, што будзе галоўным на выбарах-2015, чаму ён гатовы саступіць месца маладым?**

- Я заўжды казаў, што ў якасці кандыдатаў павінна ўдзельнічаць маладое пакаленне. Але калі Кангрэс дэмакратычных сіл, на якім мяркуецца вызначыцца з кандыдатурай адзінага кандыдата ад дэмсіл на выбарах-2015, мне цвёрда скажа, што “ты мусіш ісці таму і таму”, то я гэта, безумоўна, выканаю. Бо чалавек камандны, чалавек абавязку. Але лепш, каб пайшлі маладыя, - сказаў Аляксандр Мілінкевіч у інтэрвю Еўрарадыё.

**- Можа, так яно і сапраўды было б лепш, але ёсць рэаліі жыцця, калі, да прыкладу, падтрымка выбарчай кампаніі гарантуецца пры ўмове, што кандыдатам будзе менавіта Аляксандр Мілінкевіч…**

- Такіх канкрэтных размоў не было - гэта праўда. І яшчэ я думаю, што не асоба ўсё вырашае, не прыгажосць кандыдата, не тое, які ён сімпатычны для жанчын і як ён умее выступаць. Галоўнае, з чым пойдзе кандыдат. Гэта мусіць быць кандыдат, для якога незалежнасць - абсалютная каштоўнасць, для якога еўрапейская дарога - вельмі важная і адзіна магчымая для Беларусі, каб захаваць гэтую незалежнасць. Беларускае адраджэнне таксама павіннае быць вельмі важным для гэтага кандыдата.

І тут не мусіць быць такога падыходу: у каго сёння большы рэйтынг, у каго большая каманда… Каманда павінная быць супольная, бо самадастатковых структур сёння няма. І дай Божа зрабіць прыстойную кампанію намаганнямі ўсіх палітычных і грамадскіх структур. Таму перш за ўсё трэба паставіць мэту: “Чаго мы хочам дасягнуць на выбарах, на якіх не лічаць галасы?”

Я лічу, мы павінныя ўмацаваць праеўрапейскія настроі і жаданне беларусаў жыць у сваёй самастойнай дзяржаве. Калі будзе такі вынік, то гэта ўжо мінімум. Хаця змагацца за перамогу заўжды трэба, і ніколі не вядома, калі яна прыйдзе. Трэба шчыра працаваць, а не гуляць у палітыку. А ўжо пад гэта трэба падабраць чалавека, які цалкам адпавядае, які не здрадзіць, які будзе цвёрда стаяць на прабеларускіх прынцыпах.

Калі сабе паставіць за мэту толькі набраць як мага больш адсотак, то, я лічу, у нашых умовах гэтага недастаткова. Перш за ўсё - змена менталітэту людзей, змена іх настрояў. Асабліва пасля таго, што нарабіла ў нас у апошнія месяцы шалёная расійская прапаганда. Трэба змагацца з гэтым, бо трэба думаць і пра гэтыя выбары, і пра заўтра, і пра паслязаўтра. Бо самыя важныя выбары будуць, калі Лукашэнка сыдзе, першыя выбары пасля яго. І калі грамадства будзе такім, як сёння, мы прайграем Беларусь, пра якую марым.

Таму выбары трэба скарыстаць як магчымасць вялікай інфармацыйна-прапагандысцкай кампаніі. І змагацца за крэсла прэзідэнта абавязкова: гуляцца людзі нам не дазволяць. Скажуць: “Мы вам не верым”. Але не ставіць першай мэтай “адсоткі, адсоткі”, як на рэальных выбарах. Для нас важна паказаць, што ёсць альтэрнатыва, што Еўропа - гэта не “гейропа”, хоць і гэтыя праблемы там існуюць, а мадэль развіцця, гэта стандарты. Трэба пераконваць людзей, і няма лепшай нагоды, чым прэзідэнцкія выбары.

**- Калі няма рашэння, што вы абавязкова будзе кандыдатам на выбарах, то, можа, усё ж паспрабуеце ад Руху вылучыць сваю кандыдатуру на “адзінага”?**

- І такога рашэння няма. Не, мы абмяркоўвалі, каго б мы маглі падтрымаць, хто з Руху мог бы быць. Але гэта канфідэнцыйная інфармацыя, гэта на Радзе Руху абмяркоўвалася. Мы не лічым магчымым тое, каб Рух вылучыў свайго кандыдата і пабег з ім, не зважаючы ні на кога.

Мы калектыўныя гульцы. Яшчэ раз паўтару: самадастатковым не з’яўляецца ні Рух, ні БНФ, ні АГП, ні камуністы — ніхто. Няма самадастатковых, трэба аб’ядноўвацца. А гульня, якая цяпер ідзе, - гэта нармальная палітычная гульня. А тое,

каго ў выніку вылучыць Кангрэс дэмсіл, пакажа, ці здольны Кангрэс спрацаваць на Беларусь. Або на чужую стратэгію - гэта таксама магчыма.

**- Але час ідзе, нічога аптымістычнага пра адзінага не чуваць, вас гэта не насцярожвае?**

> мы павінныя ўмацаваць праеўрапейскія настроі і жаданне беларусаў жыць у сваёй самастойнай дзяржаве. Калі будзе такі вынік, то гэта ўжо мінімум. Хаця змагацца за перамогу заўжды трэба, і ніколі не вядома, калі яна прыйдзе. Трэба шчыра працаваць, а не гуляць у палітыку.

- Песімізм прысутнічае і ў каментарах, і ў выказваннях экспертаў. Я па сваёй місіі мушу быць аптымістам: што за палітык, які ные пра зубы і кажа, што нічога не атрымаецца. Я веру, што можа атрымацца. І працую на гэта.

**- А што гэта за палітык, які не хоча сам быць лідарам і на вышыні, а кажа, што трэба саступіць месца маладым? Ці што, час палітыка Мілінкевіча прайшоў?**

- А вось гэтая мая пазіцыя адпавядае настроям грамадства. З сацыялагічных апытанняў вядома, што людзі хацелі б новых твараў. І тут можна паслухаць грамадства і вылучаць новых. Усё ж такі старэйшая апазіцыя зрабіла некалькі капітальных памылак у кампаніях, і змаганне ўнутры апазіцыі для многіх стала важнейшым за змаганне за дэмакратыю і незалежнасць. Таму і рэйтынгі такія нізкія і ў палітычных партый, і асабіста ў лідараў.

Новы твар можа спрацаваць у добрым сэнсе. Ёсць вартыя людзі. Новыя, гэта значыць больш энергічныя, больш адукаваныя, з веданнем моваў. Новы той, хто разумее, як працуе цывілізаваны свет. Такія людзі ёсць, але яны нераскручаныя. Але для гэтага і ёсць Кангрэс і выбары.

**- Не ўсе палітычныя сілы бяруць удзел у перамовах па адзіным цяпер, яшчэ менш возьме ўдзел у Кангрэсе. Ці можна абранага не ўсімі лічыць адзіным? Асабліва калі астатнія выставяць сваіх кандыдатаў на выбарах.**

- Зразумела, пажадана, каб аб'ядналіся ўсе. Але ёсць і іншы бок: як я магу працаваць на кандыдата, у якога пазіцыя будзе не праеўрапейская? Гэта раней мы аб'ядноўваліся па прынцыпе "Супраць каго сябруем?". І ўсе сябравалі супраць Лукашэнкі, бо ён дыктатар, а мы дэмакраты. А цяпер сітуацыя іншая, і апроч размоў пра парушэнні правоў, пра адсутнасць выбараў мы павінныя людзям казаць пра пазітыўнае. А гэтае пазітыўнае для розных палітычных груп нават у апазіцыі рознае. І бачанне будучыні рознае. Таму, можа, і не ўдасца ўсіх аб'яднаць. Але калі ўдасца аб'яднаць усе прабеларускія, праеўрапейскія структуры, то ўжо добра.

Давайце ўлічваць і тое, што Масква ў кожных выбарах актыўна ўдзельнічала. І мэтай ставіла не зняцце Лукашэнкі з пасады, а раздзяленне дэмакратычных, прабеларускіх сіл і змяншэнне праеўрапейскіх настрояў. У гэтым была мэта падтрымкі Расіяй пэўных кандыдатаў. На ўсіх выбарах. І на гэтых будзе тое самае, магчыма, нават у больш жорсткай форме. Самае небяспечнае для Масквы і ва Украіне, і ў Беларусі - тое, што краіны могуць пайсці ў Еўропу. Украіна гэта ўжо анансавала, як і Грузія. Гэта трагедыя для Пуціна, які марыць пра Еўразійскі саюз, пра новую імперыю.

**- Усё, што вы цяпер кажаце, супярэчыць выбарчым паліттэхналогіям: гавары, што хочуць людзі чуць, выйграй, а потым паціху прасоўвай свае прынцыпы, калі будзе жаданне…**

- Ну, мы пакуль што не Еўропа, і выбары ў нас праходзяць пад поўным кантролем улады. І таму гэта трэба называць кампаніяй, а не выбарамі, калі сумленна падыходзіць да гэтага. Да Еўропы нам яшчэ доўга ісці. І без грамадства мы не пойдзем ні ў якую Еўропу. Гэта павінен быць выбар грамадства. І ў гэтым я бачу галоўную праблему. А калі мы будзем паміж сабой змагацца і на выбары пойдзе 5, ці 8, ці 10 кандыдатаў, мы расчаруем людзей. Таму і неабходны адзіны кандыдат. Хаця гэта не панацэя і не адзіная мэта.

Адзіны кандыдат - дэманстрацыя салідарнасці, адказнасці, і гэта мы павінныя прадэманстраваць. Далей важна тое, што адзіны кандыдат будзе гаварыць і як будзе дзейнічаць. Уявіце сабе, што адзіным кандыдатам стане чалавек, які будзе казаць: "Я за Еўразійскі саюз!", "Я за працяг інтэграцыі з Расіяй, ваеннага і Мытнага саюза!" Ці будуць прабеларускія і праеўрапейскія людзі працаваць на такога чалавека? Трэба найперш аб'яднаць іх і мяняць менталітэт. Іншага ў нас няма.

> Трэба найперш аб'яднаць іх і мяняць менталітэт. Іншага ў нас няма

# Алесь Лагвінец: Не трэба складаць рукі (працяг)

працяг ад стар. 1

наконт таго, хто будзе прэтэндэнтам на ролю адзінага кандыдата ад сіл, якія выступаюць за праеўрапейскую незалежную Беларусь. Але я не супраць паспрабаваць. І разумею, што гэта вялікая адказнасць і шмат працы.

**- "Белгазета" зрабіла прагноз, што за вас могуць аддаць свае галасы тыя, хто падзяляе еўрапейскія каштоўнасці і выступае за беларускую незалежнасць...**

- Я разлічваю на людзей актыўных, якія хочуць змен у Беларусі. Тых, хто задумваецца не толькі пра сённяшні дзень, але і пра будучыню сваіх дзяцей. Але не толькі на іх. Хачу, каб як мага больш людзей пераканаліся, што альтэрнатыва таму, што мы маем сёння, ёсць і што людзі здольныя ўплываць на сваё жыццё.

> **Хачу, каб як мага больш людзей пераканаліся, што альтэрнатыва таму, што мы маем сёння, ёсць і што людзі здольныя ўплываць на сваё жыццё.**

**- Лукашэнку ў свой час падтрымала нямала людзей сталага веку...**

- Сёння нават у межах адной сям'і можа быць пэўны падзел паводле палітычных поглядаў. І ёсць шмат людзей старэйшага веку, якія хочуць, каб Беларусь была нармальнай еўрапейскай краінай. Мне падаецца, самае галоўнае падчас любой выбарчай кампаніі — мабілізаваць свой электарат. А таксама пераканаць тых людзей, якія вагаюцца: ім не падабаецца цяперашняя палітыка, але яны не бачаць акрэсленай палітычнай альтэрнатывы. Мастацтва сапраўднага палітыка - зрабіць так, каб яны яе ўбачылі.

Праблема Беларусі не ў тым, што ёсць Лукашэнка, а ў тым, што людзі лічаць аўтарытарную мадэль улады эфектыўнай. І пытанне ў тым, як пераканаць людзей, што аўтарытарызм - гэта самаізаляцыя і адсутнасць перспектыў.

**-"Наша Ніва" напісала пра вас так: "Лагвінцу яшчэ трэба шмат чаму вучыцца ў публічнай палітыцы. Напрыклад, лепш прамаўляць ці вучыцца дамаўляцца з рознымі людзьмі. Але чаго дакладна няма ў Лагвінца, дык гэта абыякавасці".**

- Я нармальна стаўлюся да крытыкі. Як кажуць, век жыві - век вучыся. Даўно вучуся міжнародным стасункам, паліталогіі, хоць і сам яе, дарэчы, выкладаю. Палітыка - гэта праца з людзьмі, а яна бясконцая, тут удасканальвацца трэба ўвесь час, і ніколі не варта спыняцца.

**- Вы лічыце сябе палітычным тэарэтыкам ці усё ж практыкам?**

- Можна сказаць, што ў Беларусі няма магчымасці разгарнуцца - у нас дэ-факта адсутнічае палітычная канкурэнцыя. Але ў рамках таго, што магчыма, раблю практычныя крокі. Напрыклад, некалькі разоў балатаваўся, быў адным з арганізатараў вялікіх мерапрыемстваў, такіх як Беларускі еўрапейскі форум, каардынную працу экспертаў над "Народнай праграмай" - памятаеце, нядаўні прыезд у Мінск Бальцэровіча і іншых вядомых людзей з Еўропы? Хаця, што да тэорыі, то па-ранейшаму атрымліваю вялікае задавальненне ад працы з моладдзю і, дзякуй Богу, маю магчымасць выкладаць.

**- Вы верыце, што апазіцыя здолее дамовіцца наконт адзінага? Гэта не ўдалося зрабіць ні на мінулых, ні на пазамінулых выбарах.**

- Лічу, што варта дамаўляцца наконт адзінага з адказнымі людзьмі, якія штосьці з сябе ўяўляюць. І весці перамовы сярод ідэйна блізкіх людзей. Пасля гэтага можна размаўляць з іншымі. Пытанне толькі ў тым, наколькі ўсе прэтэндэнты на прэзідэнцкую пасаду будуць самастойнымі гульцамі. Мне падаецца, што гэтым разам асноўныя палітычныя сілы могуць дамовіцца паміж сабой, але ніхто не выключае магчымасці з'яўлення іншых кандыдатаў, якія будуць мець падтрымку альбо ад улады, альбо ад Крамля. Так было і раней.

**- Шчыра кажучы, мне не верыцца, што нашы палітыкі змогуць выбраць з сябе любімых самага годнага. Усё роўна нехта застанецца пакрыўджаным у сваіх лепшых памкненнях і вырашыць махнуць шашкай...**

- Дэмакратыя ў дэмакратычным асяродку існуе — з гэтым нічога не паробіш (усміхаецца). Таму такі варыянт развіцця падзей выключаць не трэба. Але, памятаеце, у 2004-м ва Украіне, нягледзячы на мноства кандыдатаў, Юшчанка ўспрымаўся як адзіны сур'ёзны, бо за ім былі сур'ёзныя сілы.



**- У палітычных калідорах зараз гуляе такая цікавая версія: маўляў, Пуцін і кампанія цесным колам вырашылі, што наспеў час змяніць Лукашэнку на больш згодлівага і прадказальнага чалавека. І быццам бы вырашана адлучыць ад улады цяперашняга кіраўніка Беларусі прыгожа і элегантна - без крыві і рэвалюцый. Як вам такі сцэнарый?**

- Пагроза таго, што ў Беларусі можа распачацца небеларуская гульня, вельмі высокая. Бо наша краіна залежная ад Расіі. І тое, што расійскія палітыкі маюць розныя інструменты ўплыву на сітуацыю ў Беларусі, - таксама праўда. Апошнія ўкраінскія падзеі дэманструюць, што ў Крамлі сядзяць людзі, якія лічаць, што могуць вырашаюць лёс свету. Але беларусам трэба думаць перш за ўсё пра сваю краіну і пра свае інтарэсы.

Хто можа быць прарасійскім кандыдатам? Пешкі на шахматную дошку ў такой гульні можна паставіць любыя: ад былых наменклатуршчыкаў да цяперашніх дэмакратаў, якія дзейнічаюць на палітычным полі.

**- Паводле вашых прагнозаў, ці могуць сярод рэальных прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла з'явіцца ўплывовыя бізнесмены, дырэктары прадпрыемстваў?**

- Гэта магчыма альбо толькі з дазволу цяперашняга кіраўніка дзяржавы, альбо ў тым выпадку, калі ён сам не будзе балатавацца. Гледзячы на былыя прыклады, ніхто з наменклатуры рызыкаваць сваёй кар'ерай і нават жыццём не будзе.

**- Як думаеце, калі Лукашэнка раптам назаве свайго пераемніка, апазіцыя яго падтрымае? Пытаюся таму, што дагэтуль некаторыя перакананы, што лепш хто заўгодна, толькі не Аляксандр Рыгоравіч.**

- А што памяняецца, калі ён раптам назаве імя свайго стаўленіка? Усё роўна будзе адабранае ў народа права на празрыстыя і справядлівыя выбары — трэба ж неяк забяспечыць свайму чалавеку доступ да трона.

**- Калі ўсё так песімістычна і выбарчае заканадаўства настолькі недасканалае, абгрунтуйце, чаму ўвогуле варта ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі?**

- У любым грамадстве падчас выбараў расце запыт на альтэрнатыву. Так ці інакш людзі міжволі пачынаюць параўноўваць. І калі няма якаснай альтэрнатывы дзейнаму кіраўніку дзяржавы, атрымліваецца, што палітычнае жыццё ў краіне ўвогуле застывае. Альтэрнатыву можа прызначыць і сам рэжым, але гэта будзе нашмат горш для грамадства. Апазіцыі варта ўдзельнічаць у палітычных працэсах, калі ёсць хоць невялікі шанец павялічыць грамадскую падтрымку, дадаць людзям веры, разумення сітуацыі і перспектыў.

Гэта магчымасць пашырыць кола прыхільнікаў, агучыць набалелыя пытанні, атрымаць дазвол на пікет, сустрэчу з выбаршчыкамі і гэтак далей. Будучыня непрадказальная, трэба быць падрыхтаваным да нечаканасці, маючы дзеяздольную каманду, якая і ствараецца падчас выбараў.

**- На вашу думку, людзі сёння цікавяцца палітыкай і палітыкамі ці іх больш хвалююць, напрыклад, тыя ж кошты — на прадукты, паліва, камунальныя паслугі?**

- І ў Нямеччыне, і ў Амерыцы людзі найперш цікавяцца станам рэчаў у эканоміцы. Немцы паверылі ў дэмакратыю і правы чалавека толькі пасля паспяховых эканамічных рэформаў Адэнаўэра і Эрхарда.

Пераканаўчых індыкатараў таго, што ў нас сёння пратэстныя настроі ў людзей растуць, не назіраецца. Рэжым выкарыстоўвае настолькі магутныя сродкі прапаганды, што шмат у каго адпадае жаданне ўвогуле цікавіцца палітыкай. І трэба ўвесь час людзей пераконваць, што ад іх штосьці залежыць. І пакуль большыня беларусаў не адчуе, што іх дзейнасць і голас маюць сэнс, складана чакаць, што ў нас нешта зменіцца.

> **“Пагроза таго, што ў Беларусі можа распачацца небеларуская гульня, вельмі высокая.**

# Колькі плаціць настаўнікам? (працяг)

працяг з стар. 1

Пры гэтым прадстаўнікі «Народнага рэферэндума» лічаць вынікі сустрэчы паспяховымі. «Дэпутат пачула інфармацыю непасрэдна з вуснаў арганізатараў, былі перададзеныя дакументы з інфармацыяй пра кампанію, вынікі сацыялагічных апытанняў», - сказаў Юрась Губарэвіч.

Паралельна сустрэчам з тымі, хто засядае ў Авальнай зале Дома ўраду, "Народны рэферэндум" ладзіць па ўсёй краіне грамадскія слуханні, на якіх абмяркоўваюцца пытанні з ягонага парадку дня.

Усе жнівеньскія грамадскія слуханні былі прысвечаны адной тэме - даступнасці і якасці адукацыі ў Беларусі. Яна вытворная ад першага пытання "Народнага рэферэндуму".

Слуханні адбыліся ў Гродне, Магілёве, Полацку і Гомелі. Удзел бралі лідары структур, якія ініцыявалі "Народны рэферэндум", вядомыя эксперты ў галіне адукацыі, а таксама выкладчыкі.

> Хацелася б, каб «народныя абраннікі» былі больш актыўнымі, выказвалі сваю пазіцыю і больш цікавасці праяўлялі да ініцыятываў, падтрыманых іх выбарцамі, што носяць мірны, законны характар і вядуць да пазітыўных зменаў у Беларусі

"Пытанне адукацыі надзвычай важнае, бо гэта будучыня нашых дзяцей і ўнукаў. Таму яно і ў парадку дня "Народнага рэферэндуму", - разважае Аляксандр Мілінкевіч. - Слуханні актуальныя яшчэ і таму, што неўзабаве будзе прынята новая рэдакцыя Кодэксу аб адукацыі. Грамадства мае магчымасць выказаць свае заўвагі. Зрэшты, маю і асабісты клопат-інтарэс - як учарашні выкладчык і сённяшні дзед".




Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, якая не далучылася да Балонскага працэсу, што мае мэтай стварэнне адзінай Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. Існуе вельмі вялікая праблема з прызнаннем нашых дыпломаў па-за межамі краіны. Выпускнік беларускага ўніверсітэта не мае тых магчымасцяў і перспектываў, якімі валодаюць студэнты ў суседніх краінах.

Кожны год расце колькасць студэнтаў, што атрымліваюць вышэйшую адукацыю на платнай аснове, і па некалькі разоў на год павялічваецца памер аплаты за навучанне.

Беларускія сем'і часта не могуць сабе дазволіць вучыць дзяцей за грошы. Мы прапануем стварыць Фонд будучых пакаленняў, які будзе напаўняцца, сярод іншага, з прыватызацыйных грошай. Гэты фонд стане асновай сістэмы "Дзіцячага капіталу".

У выніку навучальныя ўстановы будуць атрымліваць належныя грошы за сваю працу. А бацькі ў той самы час будуць гарантавана мець сродкі на навучанне дзяцей ад моманту іх нараджэння.

Але найперш мы павінны аднавіць прэстыж прафесіі педагога. Пазіцыя Руху "За Свабоду" што да рэформы ў сферы адукацыі выкладзена ў "Народнай праграме". Напрыклад, што тычыцца немалаважнага матэрыяльнага боку: узровень аплаты працы настаўніка ў пачатковай і сярэдняй школе мусіць быць дадзены да памеру 120-130% ад сярэдняга заробку ў дадзенай мясцовасці.

Падчас слуханняў прафесар, сябра Грамадскага Балонскага камітэта, былы прарэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Уладзімір Дунаеў пазначыў усю "дарожную карту" зменаў у беларускай адукацыі - ад пажаданасці ўдзелу Беларусі ў сусветнай сістэме ацэнкі якасці адукацыі да карэктавання прынцыпаў дзяржаўнай адукацыйнай палітыкі (згодна з артыкулам 107 Кодэкса аб адукацыі яе аднаасобна фармуе і

**Шэсць пытанняў «Народнага рэферэндума»:**

1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?

2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?

3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?

4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?

5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?

6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

гарантуе выкананне прэзідэнт). Уладзімір Дунаеў заўважыў, што гэтыя змены немагчымыя без далучэння да фармавання адукацыйнай палітыкі найбольш зацікаўленых груп грамадства - працадаўцаў, вучняў/студэнтаў, бацькоў навучэнцаў.

«Настаўнік матэрыяльна зацікаўлены ў тым, каб дрэнна вучыць. Калі ён дрэнна вучыць, значыць, яго паслугі ў якасці рэпетытара будуць запатрабаваныя», - сказаў навуковец.

Ён адзначыў, што ў Беларусі ў сярэдняй школе настаўнікаў у два разы больш, чым у Еўропе. «Але ў нас усюды дэфіцыт настаўнікаў. 8,6 вучня прыходзіцца на аднаго настаўніка, у той час як у Еўропе сярэдні паказчык дзесьці 15», - паведаміў Дунаеў.

Уладзімір Дунаеў заявіў, што пры цяперашняй сістэме наўрад ці мае сэнс казаць аб неабходнасці павышэння заработнай платы настаўнікам. «Калі ў нас на настаўніцкія спецыяльнасці ідуць тыя, у каго па матэматыцы ніжэй за двойку з мінусам, а потым яны матэматыку выкладаюць, то колькі ім ні плаці, яны лепш вучыць не будуць», - лічыць прафесар.

«Кажуць: давайце настаўніка пазбавім ад няпрофільных заняткаў. А якія няпрофільныя заняткі - забяспечваць выбары, падпіску на дзяржаўную прэсу, збіраць камунальныя нядоімкі, арганізоўваць сяльгаспрацы? Атрымліваецца, што навучанне - гэта для іх наогул трэцяснай важнасці задача», - адзначыў Дунаеў.

Прафесар таксама звярнуў увагу, што ў Беларусі на самой справе адсутнічае бясплатная вышэйшая адукацыя. «Дзяржава насуперак Канстытуцыі стварыла сістэму, у якой няма бясплатнай вышэйшай адукацыі з-за размеркавання, калі патрабуецца: альбо плаці грашыма, альбо адпрацоўкай», - сказаў Дунаеў, адзначыўшы, што цяперашняя сістэма дзяржаўнага кіравання загнала адукацыю ў тупік.

Паводле яго слоў, Беларусь адмаўляецца прытрымлівацца каштоўнасцяў еўрапейскай адукацыі, у прыватнасці не забяспечвае аўтаномнасць навучальных устаноў. «Калектыў не ў стане ўплываць на стратэгію навучальнай установы. Ёй кіруе дырэктар ці рэктар, прызначаны зверху і які адказвае толькі перад начальствам і гэтакі ж самы бяспраўны, як калектыў», - сказаў Дунаеў.

Ён адзначыў, што цяперашняя палітычная сістэма кіравання прывяла беларускую адукацыю да катастрофы. «Адчуванне крызісу звязана з тым, што ўпершыню для грамадскасці стала відавочна нізкая якасць сярэдняй адукацыі», - цытуе прафесара БелаПАН.

Гэта выявілася ў немагчымасці сфармаваць «нармальны» кантынгент першакурснікаў.

«У мінулым годзе 30% абітурыентаў не змаглі набраць па матэматыцы 15 балаў з 100. Гэта значыць не змаглі атрымаць двойку з мінусам, што было прахадным балам. Высветлілася, што нават на бюджэтныя месцы не хапае абітурыентаў. Але як іх можа хапаць, калі ў мінулым годзе ў нас быў заяўлены план прыёму на першы курс 80 тысяч чалавек, а школу скончылі 60 тысяч», - давёў эксперт.

Па яго сцвярджэнні, у гэтым годзе сітуацыя яшчэ горш - не змаглі здаць матэматыку на 15 балаў ўжо 40% абітурыентаў.

«Па даступнасці адукацыі мы ледзь не апярэдзілі ўсю планету - на шостым месцы ў свеце. У нас 85% усёй моладзі паступае ў ВНУ. Але калі мы такія разумныя, чаму мы такія бедныя? Чаму ў нас ВУП на душу насельніцтва менш, чым у Батсваны?» - задаўся сумным пытаннем Уладзімір Дунаеў

Па выніках слуханняў па пытаннях адукацыі ініцыятары «Народнага рэферэндуму» складуць і накіруюць свае заўвагі і прапановы ў Міністэрства адукацыі. А верасьнёўскія грамадскія слуханні будуць прысвечаныя праблемам медыцыны.

# Навучаць і навучацца па-беларуску

**Рух "За Свабоду" да Дня ведаў звярнуўся да школьнікаў і студэнтаў, а таксама іхніх бацькоў і выкладчыкаў з віншаваннямі і заклікам навучаць і навучацца па-беларуску. Апрача гэтага, арганізацыя перадала шэрагу беларускамоўных класаў і групаў у дзіцячых садках падарункі, якія спатрэбяцца пры вывучэнні беларускай мовы і гісторыі. У звароце арганізацыі адзначана, што менавіта беларускасць - падмурак нацыянальнай бяспекі і незалежнасці.**



**Каміла Ляўчук з Брэста атрымала падарунак ад Руху «За Свабоду»**

Рух "За Свабоду" пажадаў дзецям і падлеткам назапашваць веды і атрымліваць добрыя адзнакі, а студэнтам-бюджэтнікам – яшчэ і павелічэння стыпендый, а таксама скасавання размеркавання. "Інакш бясплатная адукацыя – гэта пусты гук!", - адзначана ў звароце.

Студэнтам-платнікам назычана высокіх балаў, адпаведных ведам, каб іхнія бацькі "разумелі, за што яны плацяць вялізныя грошы".

Беларускія сем'і часта не могуць сабе дазволіць вучыць дзяцей за грошы, кажуць у Руху "За Свабоду". Арганізацыя прапануе стварыць Фонд будучых пакаленняў, які будзе напаўняцца, сярод іншага, з прыватызацыйных грошай: "Гэты фонд стане асновай сістэмы "Дзіцячага капіталу" краіны. У выніку навучальныя ўстановы будуць атрымліваць належныя грошы за сваю працу. А бацькі ў той самы час будуць гарантавана мець сродкі на навучанне дзяцей ад моманту іх нараджэння".

Школьным настаўнікам і выкладчыкам ВНУ у Дзень ведаў Рух пажадаў годных заробкаў, мінімальных праверак і справаздачаў, а таксама знікнення прыкрай патрэбы працаваць не на адну стаўку.

У звароце Руху "За Свабоду" гаворыцца, што настаўнікі "павінны быць пазбаўленыя няпрофільных абавязкаў – ад папяровай бюракратыі да забеспячэння "элегантных" вынікаў на выбарах". Разам з тым адзначаецца, што апошняе залежыць у тым ліку ад вас саміх: "Той, хто выхоўвае з маладога пакалення не толькі разумнікаў і разумніц, але і грамадзян, найперш сам павінен быць прыстойным, калі не ўзорным грамадзянінам".

У звароце да бацькоў рухаўцы падкрэсліваюць, што "дзіцячы садок, школа, універсітэт – гэта далёка не ўсё", бо "багата што залежыць ад сям'і!"

Рух "За Свабоду" заклікаў школьнікаў і студэнтаў, іхніх бацькоў і выкладчыкаў, а таксама работнікаў Міністэрства адукацыі адукоўвацца і адукоўваць па-беларуску:

Паколькі беларускамоўная адукацыя ў нашай краіне працягвае мізарнець, Рух "За Свабоду" вырашыў падтрымаць тых бацькоў і дзетак, якія трымаюцца беларускасці ў дзіцячых садках і школах. Для шэрагу нешматлікіх беларускамоўных класаў і груп у розных рэгіёнах краіны былі падрыхтаваныя падарункі, якія прыдадуцца для вывучэння беларускай мовы і гісторыі (кнігі, чытанкі, настольныя гульні, забаўкі "Зрабі сам", навучальныя аўдыёдыскі, сшыткі і альбомы для малявання).





**Падарункі для беларускамоўных вучняў (злева) і для класаў (справа)**

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 31.08.2014 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by